Мікіта НАЙДЗЁНАЎ

# БЛІЖЭЙ ДА РАНІЦЫ



*Мікіта Найдзёнаў нарадзіўся 12 ліпеня 1990 года ў Пінску. Паэт, журналіст, музыкант, лідар гурта HURMA. У 2007 годзе стаў пераможцам Адкрытага маладзёжнага конкурсу паэтаў на «Днях Беларускай і Шведскай паэзіі ў Пінску». Вучыцца ў аспірантуры БДУ і працуе на радыё «Беларусь».*

* * *

Людзей здзіўляю, сам дзіўлюся
І не стамляюся штодня.
Ніхто б не здолеў, не адняў
Мой шар у лузе, шару, лузер.

Штодня гляджуся ў люстэрка,
Ды сам сябе не пазнаю.
А час ганяе плынь сваю.
І што з чаго, вядома зверху.

Сумую па табе, але
Кайфую, калі нешта штырыць.
Я шчасны: мне дваццаць чатыры,
А лепшае ўсё — далей.

**ГЭТЫ ДЗЕНЬ**

Гэты дзень быў удачны,
Я ўдзячны яму.
Пачынаем зіму
Вельмі неадназначна.
Як рамантык-прагматык
Прагне новых галактык,
Плошчаю Перамогі
Крочыць сэрца знямоглае.

Самай доўгаю ноччу
Прасядзелі ў размовах.
Не на гэта зімовыя
Варта ночы скарочваць.
Гэты дзень быў удачны,
Хоць пачаўся так позна,
А надвор'е марознае,
Як навек нешта страчанае.
Ад імбіру з лімонам

Хутка вернецца голас.
Недачытаны Глобус,
Непрагледжаны «...глобус...»
Дачытаць бы яго нам,
Паглядзець бы яго нам…

* * *

Болей сэнсу не ў тым,
каб сыходзіцца, а сыходзіць.
Задыхацца ад нематы,
Нібы хворыя на сухоты.

Не прасіць ні аб чым
І даваць без патрабаванняў.
А пасля ўначы
Аднаму заставацца ў ванне.

Спяць у ложку каты,
Скочуць зранку, галодныя.
А мне б даць лататы
Ад усмешкі лагоднае.

І глядзець, і сачыць,
Каб не ведала нат.
Так сумуе ўначы
Па Зямлі касманаўт.

* * *

Хай праз гэтыя танцы цябе няма,
Я не буду лічыць нястачы.
Дарма.
Танчы.

Да цябе не прыйду на адкрыты ўрок,
Не схаваю ў кватэры цюльпаны.
Скок.
Панны.

Замінала мне нешта. Танцор я благі.
Толькі ён няхай будзе лепшы.
Другі.
Першы.

* * *

Нейкі незразумелы сум,
Хоць я добра ведаю сам,
Што ўсё гэта звычайны сон,
А я дома ў мамы сын.

А ты недзе далёка так,
што між намі аж процьма тых
І не тых. Выбіраю з трох
Тую, што выпрабляе ток.

Выраб зроблены — незалік.
Высыхаў на пазногцях лак.
Я лаўлю твой чарговы лук.
Тэлефон выпадае з рук.

* * *

Я быў ва ўсіх яе адтулінах,
Але не ведаю, адкуль яна
Такая вось з'явілася ў жыцці
І як мне быць: пакінуць яе ці

Ісці шукаць вяртання нейкага,
Каб зноў узмахвала павейкамі
І пазірала так нявінна.
Скажы, якая пупавіна

Трымае з ёю, што і месяца
Быць аднаму не атрымаецца.
Усё навокал — яе мецiны,
А унутры, як яе станцыі.

І не дае хады, нібыта
Каменьчык дробненькі ў ботах.
Дай мне нябеснага блакіту,
Скажы: ідзі далей, Мікіта.
А ты трымаеш, ну чаго ты?..

* * *

Не катуй, не пішы,
Мне так лёгка ў цішы.
Ты ўжо не душа.
І не частка душы.

Як было — раўнаваў,
А цяпер зруйнаваў.
І як выйшла, было
Усё далёка не wow,

Як здавалася мне.
Патанай у мане,
Ды мастак не прастак
Хоць і верыць. Я — не.

## БЛІЖЭЙ ДА РАНІЦЫ

Бліжэй да раніцы
Яно здараецца
І накрывае
Мацней за коўдру.
Бліжэй да раніцы
Усё ўспамінаецца
І адчуваецца
Даволі добра.

Бялі някепскімі,
Цяпер аскепкамі
Мы разляцеліся,
Што больш не склеіш.
Пакінь налепкамі,
Ратуйся лекамі,
Якія маеш,
У якія верыш.

А вершы пішуцца,
І ўсё здараецца
Бліжэй да раніцы,
Далей ад ночы.
Адкрыў Манілаўку,
На новай станцыі
Ратую стансамі
Каго захочаш.